# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 45 (1184) ГОД XXIII БЕЛАСТОК 5 ЛІСТАПАДА 1978 г. ЦАНА 60 гр.



*Гандлёва-бытавы цэнтр горада Брэста.*

**Добры дзень, Беларусь!**

# У БРЭСЦЕ, СЛАЎНЫМ МЕСЦЕ...

Цягнік стукаў на рэйках. Пад яго рытм паўтараў я пачатак верша Максіма Танка „У Брэсце, у Брэсце, у слаўным месце бароняць крэпасць нашы салдаты, а смерць над Бугам сядзіць, чакае, калі замоўкнуць грымець гарматы...“ Цяпер было ціха. Я адпраўляўся ў Савецкую Беларусь, якая ўжо рыхтуецца да святкавання 60 гадавіны з дня абвяшчэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Ехаў тады я ў Беларусь, а ў памяці яшчэ і яшчэ раз перабіраў усё тое, што я ведаў аб гэтай краіне, так блізкай нашаму сэрцу. Прыгадваў фундаментальныя працы Міхала Федароўскага і Яўхіма Карскага, успамінаў прачытанае ў творах Міцкевіча, Крашэўскага, Ажэшкі і многіх сучасных польскіх і беларускіх пісьменнікаў. Але ўсё гэта мінулае. А цяпер? Вось цяпер, якая ты, Беларусь?

Ведаю, што яна — адна з буйнейшых сярод 15 рэспублік Савецкага Саюза, што зараз у яе межах жыве амаль 10 мільёнаў насельніцтва на тэрыторыі звыш 200 тысяч квадратных кіламетраў, што славіцца яна сваімі лясамі і натуральным багаццем, асабліва палескай нафтай і калійнай соллю. Беларусь — гэта самыя магутныя ў свеце грузавікі „Белаз“, гэта радыёэлектроніка і навейшыя мадэлі электронных вылічальных установак, гэта вытворчасць супердакладных вырабаў, у тым ліку і электронных ручных гадзіннікаў... Беларусь — поўнапраўны член Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, наш добры сусед і шчыры, сардэчны сябра.

Гэта ўсё я ведаў, калі цягнік спыніўся ў Брэсце, і абсталяваўся я ў прасторнай гасцініцы „Інтурыст“. Быў вечар. Халодны вечар першых дзён кастрычніка. За акном сярод пажоўклых клёнаў залаціліся крыжы старой царквы, а з другога боку гасцініцы, як бы спецыяльна для кантрасту — сучасны ансамбль гмахаў гандлёва-бытавога цэнтра. Калі ласка, паважаныя госці, глядзіце і любуйцеся, што каму!

На калідоры хтосьці кагосьці кліча па-польску. Цікаўнасць перамагае. Аказваецца, у гасцініцы „Інтурыст“ спынілася таксама на начоўку дэлегацыя ветэранаў апошняй вайны з варшаўскай станкабудаўнічай фабрыкі імя Варынскага. Едуць наведаць месца слаўнага бою пад Леніна. Ідзем на вячэру. Рэстаран запоўнены, хаця гэта буднішні дзень, панядзелак. Людзі танцуюць і весяляцца, апрануты модна, элегантна.

На другі дзень зранку прымаюць мяне ў абласным камітэце Камуністычнай партыі Беларусі. Гэта за плошчай Леніна, на якой устаноўлены гранітны помнік правадыру Кастрычніцкай рэвалюцыі. Спыняюся на хвіліну ля гэтага помніка. Найперш гляджу, як нейкая жанчына бярэжліва наводзіць вакол яго парадак, а затым прыходзіць і больш агульная рэфлексія аб слаўным ленінскім шляху, на які 60 гадоў таму назад укрочыла і Беларусь.

Аляксей Высоцкі, намеснік загадчыка аддзела прапаганды Брэсцкага абкома КПБ, перш за ўсё расказвае мне аб прадукцыйных і грамадскіх абавязацельствах у гонар 60-годдзя БССР і кампартыі Беларусі. У яго на стале бачу навейшы нумар абласной газеты „Заря“, якая прыносіць указанні ЦК КПБ і Прэзідыума Савета Міністраў БССР аб святкаванні гэтай знамянальнай даты ў гісторыі беларускага народа.

— У нас толькі ў адным Брэсце, — гаворыць Аляксей Афанасьевіч, — звыш 30 буйных прадпрыемстваў. Маглі б мы зараз зайсці на любое з іх, скажам, на электралямпавы завод, на завод газавай апаратуры або на дывановы ці панчошны камбінат — і ўсюды ўбачыце вы гэтыя працоўны ўздым у гонар нашага юбілею. Я мог бы засыпаць вас лікамі, але яны кожны дзень мяняюцца... Лепш тады прапаную вам паездку да людзей, найперш у Камянецкі раён, а затым на Пружаншчыну...




*Бульвар Міцкевіча.*

(Працяг на стар. 4)

ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ

# КАЛІ ПАТРАБУЕЦЕ ПАРАДЫ...

Калі сустракаешся з ім, ці то будзе ўпершыню, ці ў соты раз, цябе заўсёды захапляе яго незвычайная скромнасць, ветлівасць, спакой, развага... Так, няма сумнення — гутарка аб **Вінцуку Склубоўскім**. Нашы чытачы яго ведаюць, як актыўнага дзеяча Беларускага грамадска-культурнага таварыства, аўтара цікавых артыкулаў па гісторыі беларускага рэвалюцыйнага руху і апавяданняў у „Ніве“, „Альманахах“, „Беларускіх календарах“ і іншых выданнях, выкладчыка па гісторыі Беларусі на былым аддзяленні беларускай філалогіі Завочнай настаўніцкай студыі ў Беластоку, лектара на розныя цікавыя людзей грамадска-палітычныя тэмы. Але перш за ўсё В. Склубоўскі вядомы аўтарытэтны дарадчык у розных галінах права. Бо што і казаць, як толькі маем мы якую-небудзь цяжкую справу ў судзе, імчымся ў Беласток на Варшаўскую 11 і там выкладаем усе свае клопаты суддзі Склубоўскаму. Калі справа ў нас не такая ўжо надта спешная, тады пішам у „Ніву“. І ў адным і другім выпадку ён ўсё цярпліва выслухае, разважыць, параіць. І так ужо дваццаць год. А ўсё пачалося...



— А пачалося ўсё недзе ў канцы 1957 года, — прыгадвае В. Склубоўскі. — У рэдакцыі „Нівы“ мы тады супольна прыйшлі да вываду, што неабходна заняцца пашырэннем і паглыбленнем асноваў прававых ведаў у нашым грамадстве, трэба прыйсці з бескарыслівай прававой дапамогай людзям, асабліва сялянам, рабочым. „Ніва“ змясціла аб'яву пра тое, што ад пачатку 1958 г. адкрываецца пры яе рэдакцыі пункт бясплатных прававых парадаў. Пачаткова прыходзіла нямнога людзей — 2-3 асобы. Але з бегам часу іх колькасць узрасла да 15-20 чалавек. Таксама і пытанні ў лістах ад чытачоў „Нівы“ на першых парах былі рэдкія, а потым пасыпаліся надта часта і спатрэбілася адным даваць адказы на старонках „Нівы“ амаль з нумара ў нумар, іншым пісаць выясненні ў лістах.

Калі нават палічыць прыблізна, то за мінулыя дваццаць год В. Склубоўскі даў вусна прававыя парады сама меней 15 тысячам чалавек. А колькі працы і часу патрабуюць тыя пісьмовыя выясненні, якія ён высылае тым чытачам, што прысылаюць пытанні ў лістах? І ўсё гэта цалкам бясплатна! Гэтую гатоўнасць рабіць іншым людзям дабро, дапамагаць простаму працоўнаму чалавеку В. Склубоўскі вынес яшчэ з роднай хаты, з вёскі Малышкаўшчына,

(Працяг на стар. 4)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ.


Старонкі „Нівы“, Беларускія календары, альманахі, урэшце ўласныя паэтычныя зборнікі „Жыццёвыя сцежкі“, „Дзяцінства прыстань“, „Дружба“ вызначаюць творчы шлях Віктара Шведа. Найбольш трапным акрэсленнем яго творчага мэтанакіравання з'яўляюцца словы Анатоля Вярцінскага, узятыя В. Шведам як мотта да першай часткі свайго зборніка „Дзяцінства прыстань“,

*„Мы жывём, каб вяртацца*
*час ад часу туды,*
*дзе мінула юнацтва,*
*дзе дзяцінства сляды.“*

І Швед вяртаецца, вяртаецца на працягу ўсёй сваёй літаратурнай дзейнасці. Большасць яго твораў пабудавана на аснове супастаўлення двух светаў — з часоў яго дзяцінства і сённяшняга. Так ёсць, прыкладна, у вершах: „Хата і дом“, „На Новым Свеце конь стары“, „Дарожны арнамент“, „Жніво“. Робіць ён гэта пры дапамозе сімвалаў. Хаця б у вершы „Хата і дом“, дзе аўтар піша:

## Паэтычны свет Віктара Шведа

*„Ля хаціны нечакана*
*Рос паверхавы, цагляны*
*Гарадскі прыгожы дом.*
*Хата скромная, вядома,*
*Ла паверхавага дома*
*Учарашнім жыла днём“.*

Супастаўляючы капцілцы электрычную лямпу, драўлянай хаце мураваны павярховы дом ці ставячы конскае капыта на асфальце шумлівай гарадской вуліцы, В. Швед то з нейкай ноткай суму аглядаецца за адышоўшым:

*„І здзекваюцца ліхтары,*
*І кляксан стаўся хуліганам.*
*На Новым Свеце конь стары*
*Мо ўжо апошнім ветэранам“,*
*(„На Новым Свеце конь стары“).*

то зноў з задавальненнем і радасцю заяўляе:

*„А сёння палеткі ўрадлівыя,*
*Мы нават касою не косім“.*
*(„Жніво“)*

І так наперамен — або маніфестацыйна захапляецца, або ціха сумуе. А мо Швед не ведае, куды пахіліцца і дагэтуль не змог адшукаць сваю творчую дарогу? Не, проста, з аднаго боку, прыцягваюць яго справы вялікія, агульна заўважальныя, з другога — беспаваротна адышоўшае. І таму некаторыя творы — „Юбілейнае“, „Свята Адраджэння“, „Вялікаму Кастрычніку“ — насычаны пахваламі, узнёслымі словамі, іншыя — „Сляды дзяцінства, маладосці“, „Буслы“, „Родная хата“ — сумам.

Сум у творчасці Шведа паяўляецца часта. Вынікае ён якраз з гэтага супастаўлення двух светаў, а дакладней з элементаў, сімвалізуючых іх. Сум у Віктара Шведа ціхі, пазбаўлены маніфестацыйнасці. Няма ў яго разрывання душы ў агоніі роспачы. В. Швед не належыць да тых паэтаў, якія на ўвесь голас заяўляюць аб сваёй гатоўнасці вярнуцца на вёску — у калыску свайго дзяцінства і якім на дарозе безупынна паяўляюцца перашкоды, створаныя найчасцей імі самімі ў апраўданне сваіх учынкаў. Ён ведае аб немагчымасці гэтакага павароту, і яго сум бяссільны. У сувязі з гэтым сцвярджае:

*„І хоць праглынуў мяне ўжо горад,*
*Я у душы астаўся селянінам“.*
*(„Я у душы астаўся селянінам“).*

Прабуючы ўваскрашаць свет свайго мінулага, вёску, якую некалі пакінуў, звяртаецца ён да элементаў, якія ўжо не раз паяўляліся ў творчасці — капцілкі, сохі, сярпы. Ці сапраўды за гэтым ён сумуе? Ці сапраўды яго цягне да цяжкіх жніў сярпом, ці проста сумуе за сваім бесклапотным дзяцінствам, за маладосцю? І тут Швед не патрапіў выразна выказаць сваю задуму. Было б жа гэта абсурдам сумаваць за жорнамі, калі млын намнога аблягчае працу, ці за сярпом, калі сёння па полі ездзяць камбайны і не толькі жнуць, але і малоцяць. Чытаючы гэтыя творы, атрымліваем такое ўражанне, што В. Швед глядзеў на вёску не сваімі вачыма, а быў пад уплывам дарэвалюцыйнай вёскі, апі-

(Працяг на стар. 4)

## ПАЦЕЕ БЕЛАЯ ЗЯМЛЯ

*Настаўнік вучняў запытаў:*
*— Скажыце, калі ласка, дзеці,*
*Адкуль адна з прыродных з'яў,*
*Раса, бярэцца на тым свеце?*

*Адказ пачуў ад Васіля:*
*— Я гэта вось як разумею,*
*Так хутка круціцца зямля,*
*Што, бедная, ажно пацее.*

## Выйшла пружына ў паравозе

У горад едзе мама з Коляй
Аформіць мноства розных спраў.
Цягнік спыніўся ў чыстым полі
І з месца доўга не кранаў.

Нервуюцца ўсе пасажыры,
Усмешкі след з іх твараў знік.
З іх кожны хоча ведаць шчыра:
Чаму спыніўся тут цягнік?

Азваўся Коля: — Я прычыну
Знаю і памагчы гатоў.
Выйшла, відаць, яму пружына
І трэба накруціць ізноў.

## СЫНОК І СУПОК

*Матуля просіць:*
*— Мой сынок,*
*Табе астыне*
*твой супок.*

*— Не буду есці, —*
*Кажа Клім. —*
*З супка яшчэ*
*выходзіць дым.*



## Чаму маўклівыя ўсе рыбы

Каля акварыума шыбы
Стаяў і думаў Міхасёк:
— Чаму маўклівыя ўсе рыбы,
Дзе іх падзеўся галасок?

Адказ цікаўнаму хлапчыне
Далі вясёлыя сябры:
— Пазволь цябе ў ваду мы
кінем,
Ды паспрабуй загавары!



## Віктар ШВЕД



ВІКТАР ШВЕД нарадзіўся 23 сакавіка 1925 года ў вёсцы Мора на Беласточчыне, у сялянскай сям'і. Закончыў аддзяленне журналістыкі Акадэміі палітычных навук у Варшаве, а таксама аддзяленне беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Жыве ў Варшаве, працуе старшым рэдактарам у Выдавецтве „Кніга і веды“.

Выдаў паэтычныя зборнікі „Жыццёвыя сцежкі“, „Дзяцінства прыстань“ і „Дружба“. Член Саюза польскіх пісьменнікаў.



### МУРАШНІКІ, ЯК ПІРАМІДЫ

Спытаў настаўнік Ліду:
— Прашу мне адказаць,
Што гэта піраміды,
Дзе трэба іх шукаць?

Заўжды багаты ў слоўцы
І жартаўнік Барыс
Падказвае сяброўцы:
— Мурашнікі ў бары.

### КРУГЛЫЯ ПЯЦЁРКІ

*— Мой брацік, — хвастаўся*
*Ягорка, —*
*Ходзіць у школу тры гады*
*І толькі круглыя пяцёркі*
*Атрымлівае ён заўжды.*

*— Ты не мані, — сказала*
*Ёлька, —*
*Занадта брата не хвалі.*
*Вядома ж гэта ўсім, што толькі*
*Бываюць круглымі нулі.*

### ФІЛЬМ ПАПІЛЬНУЙ, МАЯ МАТУЛЯ

У сваёй надта чулай мамы
Сеўшы выгодна на каленях,
Тэлевізійную праграму
З цікаўнасцю глядзела Жэня.

Раптам азвалася ласкава:
— Ты папільнуй, мая мамуся,
Каб фільм не скончыўся цікавы,
А я пайду вады нап'юся.

### ШКЛЯНАЯ РАЯ

*Пытаецца Сярожы*
*Сястра малая Рая:*
*— Ці ж гэтае быць можа,*
*Каб я была шкляная?*

*Шкляная я, шкляная,*
*Шкляная не іначай,*
*Бо мама паўтарае:*
*— Наскрозь цябе я бачу.*

### ГАДЗІННІК ВЫКУПАЎ У ВАННЕ



— Верны мой гадзіннік
Ход спыніў так скора.
Даць яго павінна
Пачысціць у горад.

Адазваўся Бора:
— Мама, я старанна
Яго толькі ўчора
Выкупаў у ванне.

### СЫНОК-ЛЕЖАБОК

*Сказала мама:*
*— Мой сынок,*
*Ты ўжо сапраўдны*
*лежабок.*

*А сын адказвае:*
*— Ды не.*
*Ляжу я, мама,*
*на спіне.*



### СУСТРЭЎСЯ АБІБОК З ЛЯНОТАЙ

— Што робіш,
дружа мой?
— Нічога.
— Гэта ж цудоўнейшы
занятак!
— Ды канкурэнтаў
вельмі многа.
Таму і жыць нам
цяжкавата.



(Працяг са стар. 3)

# Паэтычны свет Віктара Шведа

санай Купалам ці Коласам, з чаго і ўзяў гэтыя элементы, якія так часта ў яго паўтараюцца.

Як ужо ўпаміналася, Віктара Шведа цікавяць справы вялікія, агульназаўважальныя, не любіць ён дэталёвасці. Гэтая веліч праблемы перашкаджае яму глянуць на яе сваімі вачыма. У сувязі з гэтым паўтарае агульнасказанае, і большасць яго твораў гэтага характару нагадвае сабой павярхоўную справаздачу, прапушчаную праз прызму аўтарскай боязі за найменшую магчымасць незразумення, якім лічыць кожную глыбейшую сказальнасць, якая патрабавала б задумы з боку чытача. І таму творы гэтыя поўнасцю пазбаўлены аўтарскай фантазіі. З'яўляюцца яны сукупнасцю агульнаявядомага. Часта аўтар, замест сваіх думак, выяўляе агульнапрынятую інтэрпрэтацыю. Яго ўласнасць зводзіцца толькі да ўпрыгожвання тэксту надта ж простымі мастацкімі сродкамі. В. Швед з'яўляецца прыхільнікам рыфмаванай паэзіі. Імкнецца ўтрымаць твор у рызах меладычнасці. Сорак чатыры вершы з напісанай да іх Э. Гойлікам музыкай і змешчаныя ў Беларускім календары за 1970 год з'яўляюцца найлепшым доказам гэтага. Канкрэтнасць, а з другога боку імкненне да ідэальнасці рыфмы адмоўна адб'валіся на творы. Часта адчуваецца, што напісаны ён не пад уплывам творчай інтуіцыі, а выразнай надуманасці, якая з'яўляецца вынікам імкнення да захавання рыфмы.

*„Дзе цэп, якім калісьці з татам*
*я малаціў авёс сухі?*
*Дзе бусел са страхі цыбатьі?*
*Няма ўжо нават і страхі...“*
(*„Сляды дзяцінства, маладосці“*)

Гэта ж ясна, што авёс малоцяць сухім, але Швед імкнуўся тут захаваць рыфму „сухі — страхі“. Гэтая пагоня за рыфмай даводзіць да шматслоўя, якое робіць расплыўчатай задуму твора.

Надуманасць вельмі часта паяўляецца ў творчасці В. Шведа, толькі не заўсёды адмоўна адб'ваецца яна на творы. У сваёй літаратурнай дзейнасці шмат месца адводзіць ён пісанню для дзяцей. І тут Швед адшукаў сябе бадай што найбольш поўна. Умее трапнымі каларыстычнымі метафарамі і параўнаннямі стварыць чароўны свет дзіцячага быту. Але надуманасцьназіраецца і тут. Не з'яўляюцца ўжо сёння папулярнымі такія дзіцячыя імёны, як Нюрка, Апанас, Лявон. Не з'яўляецца дзіковінай радыё, калі дзеці ад малых год сутыкаюцца з тэлевізарам, не напамінае ўжо хата з дымам коміна цягніка („Каб паехала нам хата“). Апраўданнем у адрас Шведа раз з'яўляецца тое, што пісаў ён гэтыя вершы намнога раней, а ў друку паявіліся яны толькі праз добрых некалькі год і няма сумненняў, што ў свой час былі яны актуальнымі, другі раз — Швед, як вынікае са сказанага, любіць вяртацца ў даўно мінулае, і некаторыя дзіцячыя вершы гэта якраз апісанне дзяцінства аўтара. Большасць гэтых твораў трымаецца на арыгінальным досціпе. І няма сумнення ў тым, што Швед умее пісаць для дзяцей, доказам чаго з'яўляюцца хаця б такія творы, як „Крот“, „Лясныя дактары“, „Апошні ліст“, „Да сонца далёка“, „Ці падрос я, тата“.

**Міхась Шаховіч**

## Ці ведаеце, што...

...наша краіна ў прадукцыі малака займае чацвертае месца ў Еўропе і пятае на свеце.

...у Польшчы ёсць звыш 46 тысяч бібліятэк, у якіх працуе звыш 60 тысяч бібліятэкараў.

**(ця)**

# Бельскае „Харо“

Урачыстае адкрыццё прадпрыемства адбылося нядаўна, 23 верасня бягучага года, але падрыхтоўка да вытворчасці распачалася намнога раней. Рыхтаваліся ў трох пунктах. Адна, шасцідзесяціасабовая група займалася тут, у Бельску. Наступную групу, каля сарака асоб — будучых швачак і закройшчыц, рыхтавала аднайменнае прадпрыемства ў Гарадку. Брыгадзіры, майстры і механікі швейных машын прывучаліся да сваёй прафесіі ў Седльцах.

Прадпрыемства зусім маладое, не маючае за сабой вялікай традыцыі. Трэба было праявіць немалыя намаганні, каб заахвоціць і здабыць працаўнікоў. А, па-другое, Бельск не мае прафесіянальнай школы, якая рыхтавала б у гэтым напрамку. Мясцовы аддзел затруднення падрыхтаваў толькі сто пяцьдзесят чалавек. Многа стаіць нявыкарыстаных машын. На 357 асоб, якім падрыхтаваны тут месцы працы, працуе толькі 261.

— Многае яшчэ не выкарыстана, — гаворыць кіраўнік Юзэф Альшэўскі. — Беручы агульны кошт пабудовы — 60 мільёнаў злотых і дзелячы на колькасць месц працы, дык выйдзе недзе сто восемдзесят тысяч адно месца.

Працуюць тут на дзве змены, акордна. Сярэднія заробкі ў межах 3500-4000 злотых. Праца тут аўтаматызавана.

— Адчуваецца найбольшы недахоп швачак, бо аж 70 асоб, — гаворыць кіраўнік.

Прадпрыемства вельмі добра абсталявана. Новыя машыны, прасторна. Апрача гэтага, ёсць вялікая прыгожая святліца, два гасцінныя пакоі, сталовая, дзе можна з'есці спакойна другое снеданне, раздзявальні, спажывецкі кіёск.

Ідзем у залы вытворчасці. Склад матэрыялаў. На полках ляжаць звалкі палатна — сыравіна для вырабаў. Забяспечвае ёю мацярынскае прадпрыемства ў Седльцах. Адгэтуль матэрыял ідзе на краяльню, дзе закройшчыцы вялікімі механічнымі нажамі рэжуць яго згодна з планам на адпаведныя кавалкі, рыхтуючы да сшывання. Кавалкі гэтыя ідуць на швальню, адкуль выходзяць гатовыя вырабы. Шыюць дзіцячую вопратку.



*Кіраўнік прадпрыемства Юзэф Альшэўскі.*

— Машыны ў нас добрыя, сучасныя — нямецкія, шведскія, японскія. Найтаннейшая машына каштуе дваццаць тысяч злотых. Пры поўным размаху кошт пабудовы звярнулі б на працягу трох год, — гаворыць кіраўнік.

На прадпрыемстве дзейнічае ўжо партыйная арганізацыя, якая налічвае 15 членаў. У апошні час прынялі сем кандыдатаў. Апрача гэтага, ёсць пяцідзесяціасабовая група ЗСМП. Ужо на працягу гэтага двухмесячнага вытворчага жыцця прадпрыемства вылучыліся сваёй працай працаўніцы, якія заслугоўваюць на несумненную пахвалу. Сярод іх швачкі: Надзя Кацейка, Луцыя Курпэта, Аня Гуз, Ірына Садоўская, брыгадзір Яніна Арнальт, майстры Альжбета Врублеўская, Вольга Іванюк і іншыя.

На будучыню, каб забяспечыцца працаўнікамі, робяць намаганні стварыць у Бельску двухкласную прафесіянальную школу, якая б рыхтавала вучняў у напрамку трыкатажнасці. Але гэта ў плане. А зараз чакаюць вольныя станкі.

**М. Шаховіч**
Фота аўтара



*У швальні.*

(Працяг са стар. 1)

# У БРЭСЦЕ, СЛАЎНЫМ МЕСЦЕ...

Гэта будзе заўтра, а сёння — у мяне яшчэ крыху часу на прагулку па горадзе. Ля вуліцы Куйбышава — новы абласны тэлевізійны цэнтр. Недалёка ад яго — вельмі арыгінальны круглы будынак тэатра, а побач — кварталы жылога будаўніцтва. Брэст, стары Брэст, робіць уражанне зусім маладога горада з вялікімі перспектывамі, дзе старое жыве побач з сучасным. Вось — дзве астаноўкі аўтобусам ад цэнтра, і мы ўжо на цудоўным бульвары Міцкевіча. Кляновае лісцё на дрэвах, кляновае лісцё на зямлі, а ўсё зіхаціць сакавітай асенняй пазалотай. На гэтым фоне помнік паэту выдзяляецца неяк асабліва. Міцкевіч глядзіць некуды ўдаль, горды, як горад Брэст, у якім ён ніколі не быў, але памяць пра яго тут асталася назаўсёды. Шкадую, што няма ў мяне кветак. Далажыў бы іх да тых, што яшчэ зусім свежыя, можа сённяшнія або ўчарашнія, ляжаць пад помнікам паэта. І хочацца паўтарыць за ім:

„Разам, сябры маладыя!..
У шчасці для ўсіх — нашы мэты
святыя...“

І мы застаемся разам, разам душой і сэрцам, з Брэстам, з усёй Беларуссю.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

# Гмінныя навіны

### НАЙЛЕПШЫЯ ДАСТАЎЦЫ

У злеўню малака ў Вітаве (гміна Дубічы Царкоўныя) малако дастаўляе ў сярэднім 112 сялян з Пасечнікаў Малых, Доўгага Броду, Пяскоў, Істока, Вітава, Якубоўскіх, Краскоўшчыны і Забагоння. У кастрычніку гэтага года штодзень збіраецца 1370 літраў сырадою. Прыёмны пункт паспяхова вядзе ўжо пяць гадоў Ян Федарук.

Найбольш малака прывозяць: Міхась Васілюк і Кірыл Баравік — жыхары Вітава. Больш-менш 25-30 літраў малака ў суткі.

### НАЙЛЕПШЫЯ ГАСПАДАРЫ

У салэцтве Доўгі Брод у гміне Дубічы Царкоўныя, якое складаецца з вёсак: Пяскі, Забагонне, Якубоўскія і Доўгі Брод, найлепшым гаспадаром з'яўляецца Ян Кендысь, сын Бартламея, з вёскі Пяскі. Прадае ён дзяржаве сельскагаспадарчых прадуктаў за 188 тысяч злотых.

У вёсцы Доўгі Брод перадавымі гаспадарамі з'яўляюцца Васіль Мацкевіч, Аляксандр Мацкевіч і Сяргей Сакалоўскі.

### ХТО НАЙБОЛЬШ?

Як паінфармавала нас Ніна Галёнка, якая ўжо сем гадоў вядзе пункт скупкі ў вёсцы Арэшкава, найбольш малака прывозяць сюды на продаж Ян Галёнка, Васіль Галёнка, Мікалай Галёнка і Уладзімір Лаўрыновіч з Пасечнікаў Вялікіх і Сцяпан Германюк з Арэшкава. Усе дастаўцы (іх 110) прывозяць кожны дзень у гэтую пару года 1500-1700 літраў малака.

Ян Галёнка дастаўляе 60 літраў, а летам нават 115 літраў малака. Гадуе ён 10 дойных кароў. 50 літраў малака прадае Васіль Галёнка. Сцяпан Германюк з Арэшкава прывозіць на пункт скупкі 30 літраў малака.

**(яц)**

(Працяг са стар. 1)

# КАЛІ ПАТРАБУЕЦЕ ПАРАДЫ...

што каля мястэчка Ашмянаў. У яго бацькоў было тры гектары слабенькай зямелькі ды дзесяцёра дзяцей. Цяжка, вельмі цяжка было яму прабівацца ў свет. Але ён перамог усё і, зарабляючы ўрокамі для заможных гімназістаў, закончыў у Вільні гімназію, а затым у 1939 годзе, ужо будучы ва ўзросце 28 год, факультэт права Віленскага універсітэта.

В. Склубоўскі актыўна дзейнічае ў Таварыстве беларускай школы і змяшчае артыкулы ў органе гэтай арганізацыі „Беларускі летапіс“. Ён супрацоўнічае з Р. Шырмам, М. Танкам і іншымі заходнебеларускімі дзеячамі-камуністамі. У канцы 1935 года таварышы даручаюць яму вельмі важныя і небяспечныя ў той час абавязкі галоўнага і адказнага рэдактара „Нашай волі“ — легальнай газеты Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі.

У час акупацыі гітлераўцы вывезлі яго на прымусовыя работы ў Германію. Пасля вызвалення ён адразу паступіў на работу ў Вроцлаўскі апеляцыйны суд і актыўна ўключыўся ў дзейнасць па загаспадаранні Дольнага Шлёнска і ўмацаванні там народнай улады. У 1957 годзе В. Склубоўскі пераязджае ў Беласток. Ад таго часу і да канца 1977 года ён працуе ваяводскім суддзёй, цяпер жа ўжо на заслужанай пенсіі, але не спыніў сваёй шматграннай грамадскай дзейнасці нягледзячы на свае 67 год.

— Вядучая ідэя маёй працы ў прававым парадніцтве — даць як найбольш аб'ектыўнае выясненне справы ў святле абавязваючых законаў, нягледзячы на тое, ці гэта ў карысць напісаўшага ці прышоўшага ка мне за парадай, ці не ў яго карысць — заўважае В. Склубоўскі. — А людзям патрэбна выясняючая законы дзейнасць проста таму, што час, сацыялістычнае будаўніцтва ў нашай краіне няспынна прыносяць многа новага ў заканадаўстве, асабліва ў адносінах да вёскі. Уваход у дзейнасць кожнага новага закона адразу выклікала павелічэнне колькасці прыходзячых за парадай і лістоў з пытаннямі. Асабліва многа людзей цікавілася і цікавіцца справамі падзелаў гаспадарак, спадчыны, працы і пенсіі сялян-рабочых, што маюць свае невялікія гаспадаркі і працуюць па-за імі, не мала спраў і абадказнасці за растраты і ўпушчэнні ў розных галінах народнай гаспадаркі. Гарадскіх жыхароў найбольш цікавяць розныя справы, звязаныя з нерухомай маёмасцю, арэндай памяшканняў, адносінамі па службе.

— Як успрымаюць вашыя парады людзі?

— Пераважная большасць поўнасцю задавальняецца тым, што я выясню ці параю зрабіць. Часта прыходзяць наведвальнікі і адразу спасылаюцца на які-небудзь закон, пра які пісалі газеты або яны чулі ад іншых людзей, нават юрыстаў. Такія людзі проста хочуць упэўніцца ў правільнасці яго інтэрпрэтацыі. Здараюцца і звычайныя зваднікі, суцягі, што цэлыя дзесяцігоддзі абтоптваюць усе нізкія і высокія парогі, пішуць да ўсіх і ўсюды. У такіх выпадках я намагаюся пераканаць такога чалавека ў беспадстаўнасці яго прэтэнзій.

Такая выясняльная праца, якую праводзіць В. Склубоўскі, выдатна ўзмацняе ў грамадстве аўтарытэт суда і прававых кансультацый. У многіх выпадках змяншае шкоднае валакіцтва і суцяжніцтва.




ФОТА ПА ЗАКАЗУ

Заказвала Мілка Сідаронак.

## ВЕР-НЕ ВЕР

Астроне, у першым сне мне снілася, што я ехала белым канём з старэйшым мужчынам і везла дзве бутэлькі гарэлкі. Па дарозе я высела з воза да сяброўкі. У гэты момант уцёк конь з мужчынам і гарэлкай. Я яго гнала, але не магла дагнаць.

У другім сне мне сніцца, што я іду цераз сваю вёску ў белай сукенцы, на галаве вэлюм і ў белых туфлях. Пасля я пайшла ў вёску, у якой знаходзіцца царква. У царкву я не ўвайшла, але вярнулася дамоў. Дома я агледзелася, што ў мяне ў гразі туфлі.

Ірэна з Гайнаўшчыны

Ірэнка, сон твой не надта добры. Чакай нейкіх непрыемнасцей, можа гэта быць смерць нейкага знаёмага ці блізкага чалавека (чалавек ад'ехаў на белым кані, але і ты раней на ім ехала, дык будзеш мець з гэтым нешта супольнае). Аб смутку сведчыць і сукенка з вэлюмам. Можа гэта быць нейкае няўданае падарожжа (брудныя туфлі).

**Астрон**

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, памажы мне, бо я ўжо бяссільная. Хаджу з Міркам, кахаем шчыра і верна адзін другога і хацелі б быць разам назаўсёды. Але мае бацькі ўсімі сіламі стараюцца нас разлучыць. Пачалі мы хадзіць яшчэ ў школе. Бацькі, а пераважна мама, ад пачатку былі супраць. Яны і добра не ведалі, што мы ходзім. Мы былі ў горадзе і ім мала што было вядома. Але калі пачалі мы працаваць, ды думаць сур'ёзна, дык я ўжо адкрыта дома сказала. Ну і пачалася „вайна". А за што? Яны ведаюць Мірка з малых год, бо жывуць недалёка ад Міркавых бацькоў, у адной вёсцы. І ведаюць, што ён хлопец добры, але вось уся бяда ў тым, што ў сям'і Мірка непаладкі. Яго бацька п'е, дзяцей пяцёра, сям'я, як кажуць у нас на вёсцы — няслаўная. А мае бацькі жывуць багата. Вось і прычына. Мама кажа, што сорамна будзе людзям у вочы глянуць, у такую сям'ю лезеш. Ды яшчэ кажа, калі бацька п'е, то і сын будзе піць, нічога, што ён цяпер не п'е. Мала таго, то Міркава маці, недзе спаткаўшы маю маму, сказала: „Ну, Маруся, сванькамі пэўна будзем". А мая мама адразу на яе накінулася. „Не дапушчу", — сказала. Пасля таго я ўжо думала, што і каханню нашаму будзе канец. Баялася, што Мірэк пакіне мяне. А ён сказаў, што ніхто нас не разлучыць. Калі бацькі не згодзяцца, дык пажэнімся без іх згоды. Але мне хацелася б зрабіць вяселле, як усе робяць. І каб бацькі разам з намі радаваліся. Але як дасягнуць гэтага?

Эля з Бельшчыны

Эля! Прыкрая справа, калі за памылкі бацькоў асуджаюць іх дзяцей. Бо што ж вінавата дзіця, што п'е яго бацька?! Яго ўжо гэты бацька пакрыўдзіў, адабраўшы яму радасць у дзяцінстве, то яшчэ людзі з пагардаю глядзяць на яго. І чаму якраз хібы бацькі прыпісваюцца сыну? Бывае, што п'е бацька, п'е і сын. Але большасць сыноў, пацярпеўшых ад бацькі-п'яніцы, стараецца ісці іншай дарогай. Пагарджаюць гарэлкай, як прычынай іхняга няшчасця І стараюцца самі стварыць сям'ю добрую, даць сваім дзецям тое, чаго ім бракавала. Што ж можна закінуць Мірку? Закончыў школу, працуе, не п'е. А паважанне і славу ў асяроддзі чалавек выпрацоўвае сабе сам — сваёй працай, адпаведнымі паводзінамі. Пагаворы з бацькамі, можа ўдасца табе іх пераканаць. А калі ўжо не, дык што ж, іншага выйсця няма, як пажаніцца без іх згоды. А потым гледзячы на вас, як вы жывеце, як паводзіць сябе Мірэк, яны зменяць свой погляд.

**Сэрцайка**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Г. патрабуе ад О. выдачы яму зямельнай дзялянкі, спасылаючыся на тое, што ў выніку падзелу спадчыннай маёмасці ў 1969 годзе дзялянка гэта была прызнана судом яму, а толькі па яго згодзе О. надалей карыстаўся ёю. Цяпер Г. хоча сам апрацоўваць дзялянку. О. сцвярджае, што дзялянку купіў прыватнай умовай ад спадкадаўцы яшчэ ў 1957 г. і ад гэтага часу бесперапынна апрацоўваў яе і пастановай начальніка гміны атрымаў яе ва ўласнасць. Ці мог начальнік гміны змяніць рашэнне суда, якім дзялянка прысуджана Г.?

АДКАЗ: Зразумела, што начальнік гміны не мае права змяніць рашэнне суда. Аднак у гэтай справе праблема не зводзіцца да гэтага. Згодна з пастановай суда Г. мог патрабаваць, каб О. аддаў яму дзялянку. Аднак пасля таго, як увайшоў у жыццё закон з 26 X 1971 г. аб урэгуляванні ўласнасці сельскіх гаспадарак, праўная сітуацыя змянілася. Многія былыя ўласнікі зямлі страцілі права ўласнасці на карысць тых, што зямлю апрацоўвалі. Новы праўны стан вызначылі пастановы спачатку павятовых, а пасля гмінных адміністрацыйных улад. Калі ў нашым прыкладзе начальнік гміны сцвердзіў пастановай, што ўласнасць дзялянкі набыў на аснове вышэй адзначанага закону О., пасля ўваходу ў законную сілу гэта пастанова творыць новы праўны стан, нават калі б яна была нязгодна з намерам закону.

## Куток практычных ведаў




### ДЛЯ НАШЫХ ДЗЕТАК

Няма большай радасці ў жыцці чалавека, як бачыць сваіх дзетак здаровымі, усміхаючыміся, прыгожа апранутымі. Надышоў асенне-зімовы сезон, і, каб дзіця было здаровае, павінна быць адпаведна апранутае. Вопратка дзіцяці ў гэты перыяд павінна быць цёплая, але адначасова лёгкая і неперашкаджаючая пры гульнях, пры хадзьбе, а яшчэ ж дзіця любіць бегаць.

Вельмі практычна было б пашыць цяпер для свайго дзіцяці нейкае пальцішка двухбаковае: пад ніз даць штучнае футра. На нашых здымках вы бачыце белае пальцішка з капішонам. Да гэтага пальцішка дададзена муфтачка з такога ж штучнага футра, якое з'яўляецца адначасова падкладкай гэтага паліто. Таксама і пальцішка ў клетку для дзяўчынкі. Мае яно вялікія накладныя кішэні і каўнерык, а капішонік прышпільваецца.

Цёплым будзе і паліто для хлопчыка, якое карацейшае за паліто для дзяўчатак і зашпільваецца на клямры і таксама з капішонам.

Такія паліто вельмі лёгка можна перарабіць з нейкіх старых рэчаў, якія вы ўжо паднасілі і проста ляжаць яны непатрэбныя.

**Сяброўка**



## ТАЙНЫ ДРУГОЙ СУСВЕТНАЙ ВАЙНЫ




Скандальная справа Цэх-Нентвіца — выпадак не адзінкавы, але найбольш сімптаматычны.

Але заходнегерманская „Коза ностра" бязлітасна прыбірае са свайго шляху тых, хто сваімі вымушанымі прызнаннямі можа выкрыць яе злачынствы. У такіх выпадках адбываюцца таямнічыя „самазабойствы". Варта было Эрыку Вагнеру, урачу з Бухенвальда, які займаўся серыйнай вытворчасцю сувеніраў з татуіраванай скуры забітых вязняў гэтага канцлагера, пачаць даваць паказанні, як на другі ж дзень ён быў знойдзен мёртвым у сваёй камеры. „Самазабойства"! Эсэсаўскага фюрэра Гневуха, які пачаў пісаць свае паказанні аб тым, як ён разам са сваім начальнікам оберштурмфюрэрам СС Германам Раўфам у спецыяльна сканструяваных газавых камерах задушыў 90 тысяч яўрэяў, турэмшчыкі знайшлі ў камеры без прыкмет жыцця. Тое ж самае адбылося з оберштурмфюрэрам Хефле, вінаватым у масавым знішчэнні польскіх грамадзян. Гэты доўгі спіс эсэсаўскіх забойстваў, зробленых з помсты і боязі выкрыцця, можна было б прадоўжыць.

Асаблівую ўвагу прыцягнула да сябе „самазабойства" гестапаўскага ката Эвальда Петэрса ў лютым 1964 г., а таксама штандартэнфюрэра СС урача-забойцы Вернера Хейдэ (ён жа — прафесар Завадэ) і яго памагатага Фрыдрыха Цільмана.

Быломy эсэсаўскаму афіцэру Петэрсу ўдалося стаць высокапастаўленым чыноўнікам сакрэтнай „групы бяспекі Бон". На працягу многіх месяцаў ён кіраваў асабістай аховай канцлера ФРГ Людвіга Эрхарда. Доказы яго ўдзелу ў масавых забойствах яўрэяў былі вельмі пераканаўчыя, а таму скандал замяць не ўдалося. Але да суда справа не дайшла: Петэрс праседзеў у камеры следчай турмы ўсяго некалькі гадзін, а потым пры нявысветленых абставінах сканаў. Заходнегерманскі друк змоўчаў падрабязнасці яго смерці, але наўрад ці яна была добраахвотная. Уласна, што пагражала Петэрсу ў заходнегерманскай дзяржаве, калі б ён паўстаў перад судом? Максімум — пажыццёвае зняволенне і ўжо ніяк не смяротнае пакаранне. Але хтосці быў вельмі зацікаўлены ў тым, каб ён не загаварыў. Нездарма французская газета „Ліберасьён" пісала: „Лепш адзін нязручны мярцвяк, чым неабходнасць рэарганізацыі ўсёй паліцэйскай службы Бона, у якой звілі сабе гняздо нацысты".

Петэрсу заткнулі рот гэтак жа, як і Хейдэ і Цільману, каб імёны іншых злачынцаў і іх гаспадароў засталіся неназванымі. Звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што амаль усе эсэсаўцы, якія ўцяклі з Заходняй Германіі, ці іншыя гітлераўскія злачынцы, што сталі ахвярай тайнай помсты сваіх саўдзельнікаў, мелі прамое ці ўкоснае дачыненне да нацысцкіх скарбаў.

Так, напрыклад, штандартэнфюрэр СС Хейдэ пасля вайны двойчы адчуў на сабе дабратворнае ўздзеянне грошай з разбойніцкай казны. У гітлераўскія часы Хейдэ з гордасцю насіў „пярсцёнак з чэрапам" і кіраваў ажыццяўленнем праграмы „эўтаназіі" — так званага „забойства з „міласэрнасці", якое азначала сістэматычнае забойства каля ста тысяч чалавек, аб'яўленых невылечна хворымі ці непаўнацэннымі. У ліпені 1947 г. эсэсаўскія супольнікі першы раз выратавалі Хейдэ, калі яго з транспартам зняволеных адпраўлялі ў турму ў Франкфурт-на-Майне. Эсэсаўскае падполле забяспечыла яго тады навенькімі дакументамі на імя доктара медыцыны Фрыца Завадэ і грашыма, на якія ён пабудаваў сабе прыгожы дом у Фленсбургу на вуліцы Вальтэр-Флекс-вег, 16. У далейшым яму больш сямі тысяч разоў прыходзілася выконваць ролю медыцынскага эксперта фленсбургскай пракуратуры, заходнегерманскіх судоў і розных іншых афіцыяльных органаў. Многія прафесары медыцыны, федэральныя суддзі, вышэйшыя чыноўнікі ўжо вельмі хутка даведаліся, хто хаваецца пад псеўданімам „доктар „Завадэ". Але яны захоўвалі маўчанне. І толькі выпадак прывёў у 1959 г. да агалоскі гэтай гісторыі. Хейдэ-Завадэ быў пасаджан у следчую турму.

